# ПРЭЗЫДЭНТУ ЛУКАШЭНКУ ПЯЦЬ ГАДОЎ МАЛА, КАБ ЗРУЙНАВАЦЬ БЕЛАРУСЬ — ЯМУ ПАТРЭБНА СЕМ

## *І зноў — рэфэрэндум*

9 жніўня прэзыдэнт Лукашэнка перадаў у Вярхоўны Савет праэкт пастановы аб прызначэньні на 7 лістапада гэтага году чарговага рэфэрэндуму, а таксама фармулёўкі пытаньняў:

«Перанесьці Дзень незалежнасьці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызваленьня Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай айчыннай вайне».

«Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 году зь зьмяненьнямі і дапаўненьнямі ў новай рэдакцыі Канстытуцыі, прапанаванай прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь».

«Ці выступаеце вы за свабодную, без абмежаваньняў куплю-продаж зямлі?».

«Ці падтрымліваеце Вы адмену сьмяротнага пакараньня ў Рэспубліцы Беларусь?».

Варыянты адказаў на пытаньні — «так», «не».

Першае і другое пытаньні носяць абавязковы характар, трэцяе і чацьвертае — кансультацыйны. У адпаведнасьці з Законам аб рэферэндуме гэта азначае, што, як бы на абавязковае пытаньне быў атрыманы станоўчы адказ — то рашэньне набывае адразу юрыдычную моц, прычым адмяніць яго можна выключна шляхам рэфэрэндуму. Кансультацыйнае ж рашэньне носіць рэкамэндацыйны характар і неабавязкова ўвасабляецца ў заканадаўства (прыкладу, на леташнім рэфэрэндуме кансультацыйным было пытаньне пра права прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет).

Паводле меркаваньняў назіральнікаў, Лукашэнка зацікаўлены ў тым, каб на першыя два пытаньні атрымаць станоўчыя адказы, а на два наступныя — адмоўныя.

Што тычыцца пытаньня пра перанос сьвята, то тут праявілася паталагічная нянавісьць Лукашэнкі да ідэі незалежнай Беларускай дзяржавы, і само слова «незалежнасьць» яму б хацелася выцерці з календару. Заўважым, што афіцыйна на Беларусі адзначаецца не 25 сакавіка, а 27 ліпеня (менавіта ў гэты дзень у 1990 годзе Вярхоўны Савет прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, статус канстытуцыйнай сілы ёй быў нададзены толькі праз год, 25 жніўня). Тым ня менш, нават гэтую дату Лукашэнка ня хоча адзначаць. Паказальна і назва новага сьвята — не «Дзень краіны», а «Дзень *рэспублікі*»; гэты тэрмін у грамадзянаў Беларусі ўсё яшчэ зьвязваецца з часткай Саюза Сав. Сац. *Рэспублік*. Відавочна, што Лукашэнка хоча прыцягнуць гэтым пытаньнем да ўдзелу ў рэфэрэндуме, як мага болей людзей пракамуністычных поглядаў, а таксама вэтэранаў. Гэтай мэце служыць і чацьвертае пытаньне, а таксама мяркуемая дата рэфэрэндуму — акурат у дзень меркаваная «вялікай кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі».

Новы варыянт Канстытуцыі, які прапануе Лукашэнка, утрымлівае значнае пашырэньне паўнамоцтваў прэзыдэнта і павялічвае тэрмін ягонага знаходжаньня на пасадзе з 5 да 7 гадоў. Але сам праект паправак у Канстытуцыю ў Вярхоўны Савет пакуль яшчэ не паступіў.

Пытаньне пра куплю-продаж зямлі «без абмежаваньняў» казуістычнае, паколькі у любой краіне існуюць тыя альбо іншыя абмежаваньні ў гандлі зямлей. Адмоўны адказ на гэтае пытаньне Лукашэнка, аднак, будзе трактаваць як нявогул нежаданьне грамадзянаў Беларусі ўвесьці права прыватнай уласнасьці на зямлю.

Такім чынам, чарговы рэфэрэндум, паводле плянаў Лукашэнкі, павінен яшчэ больш замацаваць ягоную ўладу і канчаткова ўсталяваць прынцыпы «рынкавага сацыялізму».

Тым ня менш, юрысты з Вярхоўнага Савету сумняваюцца ў карэктнасьці прэзыдэнцкіх пытаньняў. Хаця, паводле заканадаўства, парлямэнт абавязаны не пазьней чым праз месяц пасьля прапановы прэзыдэнта прызначыць дату рэфэрэндума, — юрысты сумняваюцца, што гэта трэба зрабіць да 9 верасьня. Паколькі, з праўнага пункту гледжаньня, фармулёўку другога пытаньня можна лічыць няпоўнай — прэзыдэнт не прадаставіў тэкст сваіх паправак ў Канстытуцыю. Закон, між іншым, дазваляе парлямэнту прызначыць дату рэфэрэндуму не тую, на якой настойвае прэзыдэнт, а згодна ўласнага меркаваньня. Парлямэнт можа гэтаксама дадаць і ўласныя пытаньні, адказы на якія могуць і не спадабацца Лукашэнку. І больш таго: Закон аб рэфэрэндуме дазваляе Вярхоўнаму Савету і не зацьвярджаць прапанаваныя прэзыдэнтам пытаньні, калі яны супярэчаць заканадаўству ці з'яўляюцца юрыдычна некарэктнымі.

Гэткім чынам, цяпер усё залежыць ад грамадзянскай пазіцыі дэпутатаў.

Між тым, у апошнія дні зь Менску паведамілі пра выступ Лукашэнкі ў Гародні. Прамова наўпрост трансьлявалася па тэлебачаньню, і ўся Беларусь на прагцу дзявох гадзінаў слухала абвінавачваньні ў адрас апазыцыі. Лукашэнка гэтак распаліўся, што нават скінуў пінжак, каб лягчэй было махаць рукамі. Фіналам жа выступу была заява, што ён дадае да прапанаваных раней на рэферэндум пытаньняў пятае — аб даверы прэзыдэнту.

Гэта сьведчыць, што Лукашэнка паставіў на карту ўсё — бо калі ён прайграе, то ні пра якія дадатковыя «сем гадоў» паўнамоцтваў гаворкі ўжо ня будзе. Але ж Лукашэнка не такі чалавек, каб рызыкаваць уладу, і відавочна, што ў перамозе ён перакананы. Гэтая ўпэўненасьць падмацаваная і дэталёвай праграмай падрыхтоўкі да рэфэрэндуму, распрацаванай, як і летась, з дапамогай маскоўскіх спэцслужбаў. «Прамываньне мазгоў» насельніцтва пачалося на ўсіх узроўнях: дзяржаўнае радыё толькі і гаворыць, што пра рэфэрэндум. У правінцыі ж дзейнасьць «вертыкалі» цалкам накіраваная на рэалізацыю чарговай прэзыдэнцкай ініцыятывы. Прыкладам, на пасяджэньні Магілеўскага аблвыканкаму зацьверджаны плян падрыхтоўкі рэфэрэндуму, які складаецца аж з 22 пунктаў. Тут — і абласны штаб, і прапагандысцкія групы, і вядомыя па камуністычных часах «адзіныя палітдні». Пад пільным наглядам чыноўнікаў пачалі фармавацца камісіі, якія будуць падлічваць галасы. Міжволі прыгадваецца старая ісьціна, што ў таталітарных рэжымах вынікі плебісцытаў вызначаюць не тыя, хто апускае бюлетэні ў урны, а тыя, хто гэтыя бюлетэні падлічвае...

**Сяргей Клямата**

### ПРЫЗНАЧАНАЯ ДАТА ВЫБАРАЎ

Цэнтральная выбарчая Камісія прызначыла на 24 лістапада давыбары у Вярхоўны Савет Беларусі. Сёньня у парлямэнце 60 вакантных дэпутацкіх мандатаў. У гэты ж дзень пройдуць і выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў. Як стала вядома, Аляксандр Лукашэнка настойваў на тым, каб сумясьціць выбары і рэфэрэндум, аднак гэта яму не ўдалося, і цяпер ён заяўляе, што «ніякіх давыбараў не будзе навогул».

### УЗГОДНІЎ З МАСКВОЙ

Як вядома, у часе паездкі ў Маскву на інаўгурацыю расейскага прэзыдэнта, Лукашэнка спаткаўся з міністрам замежных справаў Расеі Прымаковым. Паміж іншым, Лукашэнка перадаў Прымакову тэкст новага варыянту Канстытуцыі Беларусі. У беларускі парлямэнт гэты праект не трапіў да цяпер.

### МІЛЬЁН НА «ІМІДЖ»

Паводле інфармацыі карэспандэнтаў беларускай службы радыё «Свабода», Міністэрства замежных справаў Беларусі распрацавала праграму стварэньня станоўчага міжнароднага іміджу Аляксандра Лукашэнкі і ягонай унутранай палітыкі. У прыватнасьці, на падрыхтоўку адпаведных публікацыяў ва ўплывовых заходніх газетах мяркуецца выдаткаваць мільён даляраў.

Адміністрацыя Лукашэнкі і МЗС ужо пачалі шукаць тых, хто згодзіцца атрымаць гэтыя грошы і «падправіць» не надта прывабны вобраз Лукашэнкі. Маскоўская газета «Известия» працытавала адзін з пунктаў праграмы, які абавязвае адпаведныя урадавыя службы «скласьці сьпіс аўтарскага актыву зь ліку палітіґаглядальнікаў, радыё і тэлеаглядальнікаў, журналістаў, палітолагаў, самі імёны і абліччы якіх атаясамліваюцца ў сьвядомасьці грамадства той альбо іншай краіны з аб'ектыўнасьцю, інфармаванасьцю і праўдай». Акрамя таго, беларускім амбасадам за мяжой даручана распаўсюдзіць выдадзеную вялікім накладам кнігу Лукашэнкі пад назвай «Беларусь: шляхам рэформаў».

### ПАЧАЛАСЯ НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ БАНКАЎ

У адпаведнасьці з указам Лукашэнкі ад 24 травеня г.г. «Аб мерах па рэгуляваньню банкаўскай дзейнасьці», камэрцыйныя банкі вымушаныя павялічваць долю дзяржаўнага капіталу ў сваіх статутных фондах. Прычым урад не ўкладае ў гэтыя фонды ніводнае капейкі — акцыянэры банкаў абавязаныя самі правесьці гэтак званы »перазьлік«, зьменьшыўшы ўласную долю акцыяў. Прыкладам, «Белбізнесбанк» абавязаны давесьці долю дзяржаўнага капіталу з 12% да 49,8%, а «Белпрамбудбанк» — а 15% да 38%.

### ЛІБЭРАЛЫ І КАМУНІСТЫ ПЕРАСЬЦЕРАГАЮЦЬ ПЕРАД ТАТАЛІТАРЫЗМАМ

Як падало агенцтва Ройтэра 25 ліпеня, два дні перад сьвяткаваньнем угодкаў незалежнасьці Беларусі сем галоўных палітычных партыяў, у тым ліку лібэралы і камуністы, падпісалі заяву, у якой абвінавацілі прэзыдэнта Лукашэнку ў імкненьні ператварыць Беларусь у таталітарную дзяржаву. Абраны Лукашэнкам спосаб для такога ператварэньня — гэта зьмены канстытуцыі, якія рыхтуе прэзыдэнцкая адміністрацыя бяз удзелу парлямэнту. Адно з Лукашэнкавых новаўвядзеньняў — прадаўжэньне прэзыдэнцкага тэрміну ўлады да сямі гадоў. Лукашэнка дамагаецца, каб гэтыя зьмены ўхваліў Вярхоўны Савет. А калі ня ўхваліць, дык тады прэзыдэнт пагражае правесьці рэфэрэндум. Маючы поўны кантроль над сродкамі масавай інфармацыі, ён пэўны, што выбаршчыкі яго падтрымаюць. У заяве сямі партыяў сказана: «Мэта тых, хто хоча правесьці рэфэрэндум, — перадаць у рукі аднае асобы неабмежаваную ўладу на шмат гадоў. Рэспубліка можа тады ператварыцца па сутнасьці ў краіну з таталітарным рэжымам».

У паведамленьні адзначаецца таксама, што ад часу абраньня прэзыдэнтам Расеі Барыса Ельцына ў Лукашэнкі ахаладзеў запал да яднаньня з Расеяй, паколькі Масква ня выконвае ўзятых на сябе эканамічных забавязаньняў.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ДЗІКАЕ ПАЛЯВАНЬНЕ ПРЭЗЫДЭНТА ЛУКАШЭНКІ

Аляксандр Лукашэнка ніколі не хаваў свайго захапленьня Гітлерам. Цяпер, аднак, ён рашыў упадобіцца свайму куміру на справе: праз новы рэфэрэндум, які ён штурхае, у краіне мае ўсталявацца фюрэрская сыстэма кіраваньня дзяржавай, базаванай на волі аднаго чалавека. Лукашэнка жадае сам прызначаць парлямэнт, сам зацьвярджаць канстытуцыйны суд і іншыя дзяржаўныя ўстановы, а таксама атрымаць гарантыю пажыцьцёвага імунітэту. Рэалістычны кажучы, гэтае галасаваньне, калі яно адбудзецца, можа стаць апошнім на даўгія гады і быць індульгенцыяй для рэжыму на знішчэньне рэштак дэмакратыі, апазыцыі і іншадумства. У хлусьні, якой ён карыстаецца для апраўданьня сваіх захадаў, ён перакрочыў нават самога сабе. Лукашэнка заявіў, што парлямэнт «перашкаджае яму праводзіць эканамічныя рэформы», што быццам бы Вярхоўны Савет не жадае працаваць з прэзыдэнтам над выхадам з крызісу, што парлямэнт быццам прыняў толькі пяць законаў, а не некалькі дзесяткаў. Быў выказаны таксама пагляд, што якраз апазыцыя прэзыдэнту будзе пагражаць грамадзянам!

Нажаль, пры тым узроўні разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці ды палітычнай сьвядомасьці, што зараз на Беларусі, палітык хлусьні і цынізму яшчэ можа прыносіць палітычныя дывідэнды тым, хто іх скрыстоўае.

За зьнешняй непахіснасцю фасаду Лукашэнкаўскай дыктатуры прагледжваецца аднак факт, што рэфэрэндум патрэбен тэрмінова, прычым затрымка нават на некалькі месяцаў пагражае дэзынтэграцыяй паліцэйскага рэжыму. Сканцэнтраваўшы амаль абсалютную ўладу, Лукашэнка так і ня змог ператварыць яе у цалкам таталітарны рэжым без адкрытага гвалту: апазыцыйная прэса выходзіць хоць і ў падпольлі, заканадаўчая ўлада часта не падпарадкоўваецца, а дэмакратычныя маніфестацыі зьбіраюць дзесяткі тысячаў прыхільнікаў. І тым ня менш шлях да абсалютнай дыктатуры ня будзе простым. Асноўнай перашкодай Лукашэнку будзе ягоная бязглуздая эканамічная палітыка, якая банкруціць дзяржаву, зьбядняе людзей і выводзіць іх на вуліцы. Дарма афіцыйная прапаганда рапартуе аб нібыто затрыманым спадзе вытворчасьці.

Лукашэнкаўскія агітатары маўчаць аб тым, што 40% вытворчай прадукцыі не прадаецца, што скрытае беспрацоў'е дасягнула 20-25%, што гандлёвы дэфіцыт дасягне хутка мільярд даляраў. Эканамічны крызіс на Беларусі пагоршыўся па падпісаньні умовы інтэграцыі з Расеяй, хоць гэтая падзея раней разглядалася рэжымам як гарантыя таго, што «вялікі брат» выратуе рэжым у цяжкую хвіліну. Гэта і быў адзін з аргумэнтаў, чаму лукашэнкаўцы так доўга патраплялі трымаць эканамічную сітуацыю на плаву. Аднак нечакана паўстала пытаньне ў ліпені сёлета аплаты энэргетычных паставак. Выплылі старыя супярэчаньні паміж Лукашэнкам і расейскім прэм'ерам Чарнамырдзіным.

Акрамя Чарнамырдзіна, Лукашэнка знайшоў ворагаў і сярод іншых асобаў «унутранага кола» Ельцына, такіх як старшыня Рады Бясьпекі генэрал Лебедзь, ці кіраўнік Ельцынскай адміністрацыі, сп. Чубайс. Адзінымі сябрамі Лукашэнкі ў Маскве сталіся камуністы. Іх і падтрымаў у часе выбарчае кампаніі ў Расеі беларускі прэзыдэнт. Пачаліся клопаты й няпрыемнасьці.

Маскоўскія камуністы сталі дапамагаць Лукашэнку. Заява маскоўскіх камуністаў аб нібыта плянаваным ЦРУ ды Польшчай загаворы супраць Лукашэнкі сьведчыць, што яму ўжо мала ўнутраных ворагаў, каб тлумачыць катастрафічныя наступствы свайго панаваньня. Нечакана ўваскрос аб'яўлены лукашэнкаўскай прапагандай нябожчыкам Беларускі Народны Фронт. Моладзь дала зразумець, што час і гісторыя пачалі адбіваць зваротны лік для дыктатара. Ускалыхнуўся і беларускі парлямэнт — адзіная у краіне трыбуна па-за кантролям лукашэнаўскіх цэнзараў. Антыпарлямэнтскі дэмарш прэзыдэнта прывеў да кансалідацыі усіх фракцый — ад камуністаў да лібэралаў за выключэньнем «Згоды». «Знак біды» адчулі над сабой жорсткія апанэнты. Таму нядаўняя заява сямі партыяў ужо не выглядае сюрпрызам. Пагроза зьнікненьня з палітычнай арэны павісла нават над камуністычнай і аграрнай партыямі. Спадар Шарэцкі, аднак, здолеў абзавесьціся моцнымі сябрамі сярод Крамлеўскага істэблішмэнту, такімі, як прэзыдэнт расейскага Сенату сп. Строеў, пасьля чаго заўважна пасьмялеў у публічных атаках на прэзыдэнта.

Што тычыцца камуністаў, то іх літаральна прадалі іх расейскія калегі, якія, па чутках, аддалі перавагу зелені лукашэнкаўскіх грошай перад братэрствам чырвоных сьцягоў. Бадай у першы раз кампартыя Беларусі была прымушана дзейнічаць без аглядкі на «старэйшых таварышоў». Нечакана у канцы ліпеня адбыўся раскол унутры ўраду. Адстаўка віцэ-прэм'ераў Сініцына, Лінга і Даўгалёва, таксама як міністра экаміі Бадзея паказальна тым, што ўсе чатыры асобы мелі рэпутацыю тых нямногіх саплечнікаў дыктатара. Акрамя таго, Сініцын і Даўгалеў былі членамі прэзыдэнцкай каманды яшчэ падчас выбараў, і пасьля іх адстаўкі з тых маладых дэпутатаў былой Вярхоўнай Рады, якія прывялі Лукашэнку да ўлады, застаўся толькі «заўхоз» Ціцянкоў-«босс» кіраваньня справамі прэзыдэнта, а фактычна ядро карупцыйнай дзейнасьці ўсяго рэжыму. Адстаўкі паказальныя і тым, што прэзыдэнт ня можа поўнасьцю даверыцца на сваё унутранае кола, якое наўрад ці захоча у будучым браць на сябе віну за дзеяньні цяперашняга рэжыму.

Ключ да, бадай, самага галоўнага матыву цяперашняга паляваньня на Канстытуцыю ляжыць у адказе, які Лукашэнка даў калісьці на пытаньне, ці з'яўляецца ён дыктатарам, карэспандэнту лёнданскай "Financial Times": «Пры такой незвычайнай папулярнасьці ці патрэбны мне дыктатарскія мэтады?» Здаецца, цяпер нават сам ён не спрачаецца з тым, што папулярнасьць яго пачынае падаць. Лукашэнка так і ня здолеў давесьці народу, куды мае крочыць краіна пад яго дыктатам. Прэзыдэнт Лукашэнка ўсьведамляе, што абраны ён быў на хлусьлівых, блёфавых абяцанках, а рэальнасьць зусім іншая і народ пачынае ўсьведамляць гэтую рэальнасьць.

Аднак прэзыдэнт Лукашэнка выдатна валодае палітыкай прынцыпу «падзяляй і пануй», ён дасканалы палітыкан макіавельяўскага тыпу, які спалучае жорсткасьць ільва з кемлівасьцю лісы. Нечакана, ўзьнікаюць пытаньні аб уласнасьці на зямлю і аб новым дзяржаўны сьвяце — гадавіне акупацыі Беларусі бальшавікамі. Тут справа не у зямлі ці сьвяце, а ў камуністычным электарацe, на які разьлічвае Лукашэнка. Вельмі верагодна, што камуністы лёгка паддадуцца ўціску прэзыдэнта і аддадуць яму і рэфэрэндум, і канстытуцыю. Але перамога зараз ужо не гарантаваная; падзеі ўвосені будуць разгортвацца ў залежнасьці ад таго, ці зможа апазыцыя і надалей выступаць адзіным фронтам у змаганьні супраць Лукашэнкі, ці зможа дыктатар захаваць еднасьць свайго рэжыму і зноў пераканаць Крэмль у існаваньні пагрозы расейскім інтарэсам у Беларусі, а таксама, як пільна будзе назіраць міжнародная публічная апінія за падзеямі ў краіне.

Калі Лукашэнка не адчуе непасрэднай пагрозы ў свой бок, але і ня будзе мець упэўненасьці ў перамозе, ён можа нават пайсці на кампраміс, зьняўшы найбольш адыёзныя пытаньні і атрымаўшы сімвалічную перамогу па іншых — толькі каб у будучым інтэрпрэтаваць гэта, як выяву поўнага і бясспрэчнага даверу сваёй асобе. У гэтым выпадку, высьвеньне адносінаў пераносіцца на больш позьні час, за які ён правядзе чыстку сваёй каманды, зачыніць яшчэ некалькі газэтаў і паспабуе наладзіць зноў адносіны зь Ельцыным ці з яго колам. Калі ж дыктатар адчуе, што нават самы маленькі кампраміс небясьпечна ўзмацняе і згуртоўвае апазыцыю — рэжым у роспачы пойдзе на ўсталяваньне таталітарнай сыстэмы з усімі яе атрыбутамі, і тады трэба чакаць самага горшага — далейшага ўзмацненьня рэпрэсій і забаронаў любое апазыцыйнае дзейнасьці. Будзе шырыцца і сьпіс ворагаў народу — за палітыкамі, журналістамі і прадпрыймальнікамі прыйдуць дзяржаўныя чыноўнікі і спадручныя Лукашэнкі, на якіх ён «павесіць» усе новыя і старыя правалы. Застаецца пытаньне, на які час хопіць сілы, каб панаваць краінай як свінафэрмай? Чым рэжым плоціць незьлічоныя абяцанкі, як прадухіліць жабрацтва, беспрацоўе, нянавісьць моладзі? Ці хопіць адных рэпрэсій ды падману? Найболей цяжкім наступствам чарговай авантуры Лукашэнкі з'яўляецца зьнішчэньне легальнага сродку адхіленьня яго ад улады. А гэта значыць, што калі Беларусь і Лукашэнка мелі шанс разыйсьціся мірна, то гэты шанс зараз зьнікае. Ужо зараз Беларусь падзелена і напружана да крытычнага пункту. Лукашэнка здолеў падзяліць нацыю на ягоных саюзнікаў і праціўнікаў, і падзел гэты дайшоў да нізоў грамадзтва.

Хацелася-б зразумела пазьбегнуць горшага, непрыкрытай тыраніі на Бацькаўшчыне, што адкінула-б Беларусь у дагарбачоўскія часы, у той самы 1984 год, пра які з сумным жартам пісаў Оруэлл, бо рух наперад з той кропкі ужо ня будзе простай справай часу.

**Віталь Сіліцкі**

## АКЦЫІ Ў ПАДТРЫМКУ ПАЗЬНЯКА І НАВУМЧЫКА

12 жніўня прыхільнікі БНФ правялі пікетаваньне будынку Генэральнай Пракуратуры, патрабуючы спыніць перасьлед Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, і даць ім гарантыі вяртаньня на Радзіму. Пікетоўшчыкі трымалі плякаты «Пазьняк атрымаў на прэзыдэнцкіх выбарах 750 000 галасоў. Будзеце выганяць усіх?», «Пазьняк і Навумчык — патрыёты Беларусі», «Ганьба рэжыму, што ствараc палітэмігрантаў», «Прэзыдэнт Пазьняк нікога ніколі б не выганяў». З заявамі ў падтрымку Пазьняка і Навумчыка выступілі Сойм і Управа Беларускага Народнага Фронту.

Фракцыя па захаваньню «Грамады», якая дзейнічае ў складзе Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, зьвярнулася да старшыні парламенту сп. Шарэцкага з прычыны знаходжаньня лідараў БНФ Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка ў вымушанай эміграцыі па палітычных прычынах. Нягледзячы на шматлікія звароты грамадзкасьці, лідараў палітычных партыяў да ўраду, кіраўнікоў праваахоўчых ворганаў ды Генэральнай пракуратуры, адказу на пытаньне, ці распачатая крымінальная справа ў дачыненьні да сп.сп. Пазьняка і Навумчыка, атрымаць не ўдалося, — гаворыцца ў лісьце. Фракцыя просіць сьпікера парляманту на 2-ій сесіі Вярхоўнага Савету стварыць адмысловую камісію па вывучэньню акалічнасьцяў, звязаных зь перасьледам Пазьняка і Навумчыка. Як вядома, да гэтага часу не адменены загад камандуючага памежнымі войскамі затрымаць іх у выпадку ўезду на тэрыторыю Беларусі, падпісаны яшчэ 27 красавіка. Між іншым, фракцыя па захаваньню «Грамады» прапанавала, каб камісія дала гэтаксама аб'ектыўную ацэнку падзеям вясны 1996 году.

**Даведка:** Фракцыя па захаваньню «Грамады» (лідар — дэпутат колішняга парламенту Алег Трусаў) створаная у чэрвені сёлета пасьля таго, як большасьць дэлегатаў з'езду БСДГ на чале са сп. Статкевічам вырашыла аб'ядноўвацца з Партыяй Народнай Згоды, на чале якой стаяць набліжаныя да Лукашэнкі дзяржаўныя чыноўнікі. Прынамсьці, пад час аб'яднальнага з'езду дэлегаты ад Партыі Народнай Згоды выступілі супраць бел-чырвона-белага сьцягу.

*У беларусаў Нью-Ёрку*

У Інстытуце Вывучэньня Ўсходняй Эўропы Калюмбійскага ўнівэрсытэту ў Нью-Ёрку адбыўся 19 красавіка сэмінар, прысьвечаны Беларусі. На ім др, Янка Запруднік гаварыў пра бягучыя падзеі на Беларусі, беларуска-расейскія дачыненьні, стан эканомікі, ход рэформаў і ролю прэзыдэнта РБА Лукашэнкі. Слухачамі сэмінару былі выкладчыкі ВНУ і спэцыялісты ўсходнеэўрапейскіх праблемаў. На сэмінар былі запрошаныя прадстаўнікі генэральнага консулату РБ у Нью-Ёрку і беларускія місіі пры ААН, але нікога адтуль на сэмінары ня было.

* * *

Першая палова ліпеня прайшла ў інтэнсыўнай падрыхтоўцы адзначэньня Тыдня Паняволеных Народаў. Прадстаўнікі БАЗА бралі ўдзел у колькіх паседжаньнях арганізацыі Тыдня, сустракаліся з адміністрацыяй гораду. На адным з паседжаньняў была ўнесеная прапанова, каб сёлетні парад Паняволеных Народаў узначаліў ведамы беларускі палітык, змагар за правы асобы ў Беларусі, галава й пачынальнік нацыянальнае апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, некалі БССР, а пазьней Рэспублікі Беларусь, сп. Зянон Пазьняк. Беларуская прапанова была аднагалосна ўхваленая і спадар Зянон Пазьняк, які ў тым часе разам з сп. Сяргеем Навумчыкам прыехалі ў Нью Ёрк, быў маршалам параду Паняволеных Народаў у Нью Ёрку.

* * *

14 ліпеня спадары Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык мелі сустрэчу зь мясцовымі беларусамі ў гор. Мангэсэце ў кватэры спадарства Бартулёў. Прысутныя літаральна «закідвалі» кіраўнікоў Беларускага Народнага Фронту пытаньнямі, як аб агульным палітычным стане на Бацькаўшчыне ды асабліва аб дзейнасьці БНФ. На заканчэньне сустрэчы быў падрыхтаваны выдатны пачастунак спадарствам Бартулямі.

* * *

Прадстаўнікі мясцовага аддзелу БАЗА бралі ўдзел у колькіх сустрэчах-паседжаньнях з прадстаўнікамі гарадзкое адміністрацыі прысьвечаных справе выданьня даведнікаў пра нацыянальныя групы штату Нью Ёрк ды арганізацыі нацыянальных выставак.

* * *

20 ліпеня адбылася нарада управы аддзелу БАЗА з удзелам старшыні Галоўнае управы сп. Антонам Шукелойцам. Разглядалася дзейнасьць аддзелу ды справы надаходзячае 22 Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

* * *

Разам з БІНІМам аддзел БАЗА наладзіў кнігаабмен зь некаторымі ўстановамі на Беларусі і ў Заходняй Эўропе.

**Алесь Міцкевіч**

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя дзякуе за прысланыя газэтныя выразкі: Ю. Найдзюк, П. Барысіку, Др. В. Рамуку, В. Мельяновічу, А. Маркевічу, М. Швэдзюку, Л. Юрэвічу, А. Сільвановічу, С. Трыгубовічу, К. Крамко, В. Усьціновічу, Ю. Кіпелю, А. Суботу, Л. Вашчынскаму.

*З жыцьця ў Нью Джэрзі*

## НАРАДА БЕЛАРУСКАГА АКТЫВУ

Прадстаўнікі Рады БНР, Кааліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі (у якую ўваходзяць 15 арганізацыяў) ды беларускіх асяродкаў у Злучаных Штатах правялі 29 чэрвеня ў Нью-Брансуіку, Н.-Дж., нараду на пытаньнях сучаснага палажэньня ў Беларусі і зьвязаных з гэтым акцыяў дзейнасьці ў замежжы і дапамогі на Бацькаўшчыне. У нарадзе ўзяло ўдзел сорак асобаў ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Згуртаваньня Беларусаў Канады ды іншых арганізацыяў.

Уступнае слова на нарадзе сказаў др. Барыс Рагуля, заступнік Старшыні Рады БНР, які нядаўна наведаў беларускія асяродкі ў Эўропе, даў інтэрв'ю радыё «Свабода».

Пасьля дэтальнага абмеркаваньня сытуацыі было пастаноўлена выпрацаваць палітычную плятформу і прынцыпы супрацоўніцтва паміж рознымі беларуска-амэрыканскімі і беларуска-канадзкімі арганізацыямі. Дзеля гэтае мэты была абраная камісія, вынікі працы якой будуць апублікаваныя.

* * *

У сераду 15 травеня ва ўтульнай атмасфэры Мастацкай Бібліятэкі Ратгэрскага Унівэрсытэту у Нью-Брансьвіку, дырэктарам каторай з'яўляецца Галіна Русак, адбылася сустрэча з маладой мастачкай зь Беларусі Тацьцянай Маркавец. Прысутныя мелі магчымасьць азнаёміцца з малавядомым мастацтвам выцінаньня. Тацьцяна Маркавец узгадала пачатак свайго творчага шляху, настаўнікаў ды растлумачыла прынцыпы сымбалізму, пакладзеныя у аснову некаторых працаў. Акрамя выцінанкі маладая мастачка тчэ беларускія паясы, што было галоўнай прычынай яе візыту у Злучаныя Штаты, ды займаецца пляценьнем саломкі. Даклад суправаджаўся паказам слайдаў, а па заканчэньні Тацьцяна адказала на пытаньні слухачоў да прапанавала прадоўжыць бяседу за пачастункам, падрыхтаваным адміністрацыяй бібліятэкі.

Візыт Тацьцяны Маркавец у Злучаныя Штаты спансаравалі Рада Народнага Мастацтва Штату Нью Джэрзы ды Беларуска-Амэрыканскае Культурна-Адукацыйнае Таварыства.

**С.Т.**

## БЕЛАРУСЬ У ІНШАМОЎНЫМ ДРУКУ

Бэльгійскі француска-моўны друк (газэта Ля Мёўз і іншыя, дасланыя нам сп. П. Барысікам) шырака апісалі прыезд у Бэльгію на месячны пабыт «малых» беларусаў з Чарнобыльскае зоны. Бэльгія, рэгіёны Льежу, Барынажу, Намюру, шчыра прынялі маладых гасьцей ды стараюцца ім стварыць самыя прыязныя ўмовы для адпачынку. Дзеці зь Беларусі (320 асобаў) прабудуць у Бэльгіі увесь месяц жнівень.

*ЗЬ ГІСТОРЫІ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСАЎ У ЗША*

50 год таму назад ... у верасьні 1946 году ў Нью Ёрку адбываўся Трэйці агульна-амэрыканскі славянскі кангрэс. Ад беларускае нацыянальна-палітычнае эміграцыі выступаў на кангрэсе айцец Ян Тарасэвіч, тагачасны старшыня Беларускае Нацыянальнае Рады ў Чыкага. Айцец Тарасэвіч выказаў аспірацыі беларускае палітычнае плыні — аднаўленьне беларускае дзяржавы ў яе этнаграфічных межах, выказаў пратэст супраць падзелу беларускае тэрыторыі ды прадставіў арганізацыйны стан беларускае групы ў ЗША.

Цікава адзначыць, што на тым самым кангрэсе выступіў і Цімафей Гарбуноў, які рэпрэзэнтаваў на кангрэсе і БССР і СССР. Гэта, мабыць, першы ў гісторыі выпадак, калі прадстаўнік беларускае палітычнае дыяспары выступаў з аднае тае самае трыбуны, што і прадстаўнік БССР.

## СУПРАЦЬ МОЎНАЙ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ

З пратэстам супраць зачыненьня беларускіх клясаў выступіў Беларускі Гэльсінскі Камітэт. «Адміністрацыя школаў, у парушэньне Канстытуцыі і заканадаўства, пад рознымі зачэпкамі не жадае адчыняць беларускамоўныя клясы, як таго хочуць шмат якія бацькі і дзеці» — гаворыцца ў звароте Камітэту, накіраваным у Вярхоўны Савет. Беларускія праваабаронцы заўважаюць, што апошнім часам парушэньне права бацькоў і дзяцей на свабодны выбар мовы навучаньня набыло ўсеагульны размах. І як вынік гэтага — колькасьць дзяцей, якія навучаюцца на беларускай мове, за апошні год скарацілася на 2/3. Школьныя адміністрацыі спасылаюцца на загад, які не дазваляе захоўваць альбо адчыняць новыя беларускія клясы, калі ў іх набіраецца меньш за 25 вучняў. Натуральна, што такія загады лукашэнкаўскіх чыноўнікаў супярэчаць праву на свабодны выбар навучаньня, які замацаваны ў Канстытуцыі, а таксама Законах аб мове і аб адукацыі.

## ЗЬНІШЧЭНЬНЕ ПАДРУЧНІКАЎ

Паводле менскай газэты «Свабода» вялікая партыя школьных падручнікаў, сярод якіх «Гісторыя Беларусі» для 8-9 клясаў (выданьня 1992-93 г.г.), «Беларуская мова для 3 клясы» (1994 г.), «Буквар» А. Клышкі ды інш., пачалі дастаўляцца са школьных бібліятэк Беларусі на папяровыя фабрыкі для перапрацоўкі ў кардон.

Журналістам не ўдалося высьвятліць хто пэрсанальна й ад імя якой установы аддаў загад на зьнішчэньне падручнікаў, створаных у часе нацыяналізацыі сыстэмы адукацыі перад усталяваньнем лукашызму. Бяз сумневу, аднак, зьнішчэньне падручнікаў ёсьць плянавай акцыяй, што ажыцьцяўляецца ў адпаведнасьці з загадам Лукашэнкі ад жніўня 1995 г. па выдаленьні падручнікаў і дапаможнікаў узору 1992-95 гг. з сыстэмы адукацыі.

Неўзабаве, у школы пастуцяць новыя падручнікі, зьмест якіх канцэптуальна й фактагічна мае на мэце апраўдаць паняволеньне Беларусі расейцамі ў мінулым ды выхоўваць ухвалу сучаснай палітыкі лукашызму, скіраванай на разбурэньне й здачу беларускай дзяржаўнасьці.

## СЛАВАМІРА АДАМОВІЧА СУДЗЯЦЬ У ВІЦЕБСКУ

Першы намесьнік Старшыні Вярхоўнага Суду Беларусі сп. Гогаль накіраваў крымінальную справу па справе публікацыі віцебскай газэтай «Выбар» вершу Славаміра Адамовіча «Забі прэзыдэнта!» у Віцебскі абласны суд. Па справе, якая склала чатыры тамы, праходзяць паэт Славамір Адамовіч і супрацоўнікі «Выбару» Барыс Хамайда й Міхась Плешчанка.

Ім інкрымінуецца «замах на зьдзяйсьненьне тэрарыстычнага акту ў адносінах да вышэйшай дзяржаўнай асобы». Між тым, як вядома, у вершы не ўзгадваецца прозьвішча якой-небудзь канкрэтнай асобы.

Згодна рашэньню першага намесьніка Старшыні Вярхоўнага Суду, са сьледчага ізалятару КДБ у Віцебскі сьледчы ізалятар пераведзены аўтар вершу сп. Адамовіч. Не выключана, што такі крок прадыктаваны імкненьнем уладаў пазбавіць судовы працэс шырокага грамадзкага розгаласу, які ён меў бы ў сталіцы.

Суд над С. Адамовічам пачаўся 23 жніўня.

## ЗВОЛЬНЕНЫЯ ТРАНСПАРТНІКІ МОГУЦЬ ПРАСІЦЬ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫТУЛКУ

Як паведаміла менскае незалежнае агенцтва Бела ПАН, напярэдадні гадавіны страйку на менскім метрапалітэне і ў тралейбусных дэпо Менску і Гомлі, Дэмакратычны прафсаюз транспартнікаў звярнуўся да Вярхоўнага Савету, адміністрацыі прэзыдэнта і прафсаюзаў.

Дэмакратычны прафсаюз транспартнікаў прапануе стварыць грамадзкую камісію для расьследваньня прычынаў канфлікту, які выклікаў страйк.

Да гэтага часу без працы застаюцца каля трыццаці машыністаў, звольненых з-за удзелу ў страйку. Апошнія свае спадзяваньні яны ўскладаюць на дзейнасьць грамадзкае камісіі.

Калі і яна не прынясе жаданых вынікаў, то зусім магчыма, што група забастоўшчыкаў папросіць палітычнага прытулку ў адной з заходніх краінаў.

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

У нядзелю 14-га ліпеня парахвія Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Адэляйдзе ўрачыста сьвяткавала сваё прастольнае сьвята сьв. апосталаў Пятра й Паўла.

Царква ў гэты дзень выглядала надзвычай урачыста. Божая служба пачалася а 10-й гадзіне раніцы. Народу сабралася больш як у звычайныя дні. Божую службу адправіў пратаярэй Міхась Бурнос. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам рэгента Ўладзімера Калесьніковіча.

Пасьля Божае службы адслужылі малебен у беларускай мове, па сканчэньні якога адсьпявалі "Магутны Божа». Вакол царквы адбыўся крыжовы ход.

Затым парахвіяне й госьці сабраліся ў царкоўнай залі на супольны абед. Гаспадыні папрыносілі з дамоў шмат смачнае ежы. Перад пачаткам абеду старшыня парахвіяльнае Управы У. Акавіты прывітаў усіх прысутных з парахвіяльным сьвятам да пажадаў весела й у добрым настрої правесьці гэты дзень, а затым папрасіў прысутных хвілінаю цішыні ўшанаваць усіх тых, хто адыйшлі ад нашае парахвіі на вечны супачынак.

Па заканчэньні прамовы У. Акавітага пратаярэй М. Бурнос благаславіў ежу на супольным стале. У часе абеду гучалі тосты за прысутных ды за ўвесь беларускі народ, за Беларусь. Гэтак весела прайшоў час ажно да чацьвертай гадзіны, калі ўсе раз'ехаліся да дому ў вясёлым настрої.

Чытачам газэты «Беларус» хочацца сказаць, што мы яшчэ трымаемся й жыве яшчэ нашая парахвія, праўда нас што раз меншае. Мы ўсе перажываем, што беларускі прэзыдэнт Лукашэнка не спрыяе, каб Беларусь была самастойнай краінай. Слава Богу, што маем нацыянальныя кадры, якія дбаюць пра самастойнасьць Беларусі.

У нас, у Адэлайдзе цяпер зімовы час, ідуць часта дажджы й гэта дае надзею на лепшы ўраджай. Пшаніца ўжо пасеяна й на Каляды будуць жаць. Дрэвы ў садох згубілі лісточкі й стаяць голыя. Мы, пэнсыянэры, зьбіраемся ў царкоўнай залі па серадах і там праводзім час.

**У. Акавіты**

## УГОДКІ БКА і 2-га КАНГРЭСУ

Беларусы Сыднэю і ваколіц адзначылі 52-я ўгодкі арганізацыі Беларускае Краёвае Абароны і Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў нядзелю 23-га чэрвеня.

Сьвяткаваньне распачалося ў Гомэбушскай праваслаўнай царкве а 10 г. раніцы. Пасьля сьвятое літургіі а. Ігар адслужыў малебен за беларускі народ, пад час якога на зважай стаяў са сьцягам сп. Міхась Ціхан. Хор пад кіраўніцтвам маэстра Аўгена Падгайскага цудоўна выканаў «Магутны Божа».

З царквы ў залю Бел. Культурна-Грамадзкага Клюбу ўсяго 8 км. Паўнюткая заля. Адкрыў акадэмію старшыня Клюбу Міхась Лужынскі, ён-жа расказаў пра 3-ы гады нямецкай акупацыі, арганізацыю адміністрацыі, Самапомачы, Самаабароны, перашкаленьне былых афіцэраў у Менску, стварэньне афіцэрскае школы БКА, ды мабілізацыю ў сакавіку 1944 г. Прамоўца акцэнтаваў, што ва ўсіх гэтых мерапрыемствах нямецкі недавяралі беларусам. Было-б наіўна думаць, што стотысячнае беларускае войска магло ў той час зрабіць нейкі ўплыў на ход падзеяў 2-й Сусьветнай вайны. Але трэба не забывацца, што вялікая колькасьць жаўнераў БКА адышла на захад і гэтым самым узмоцніла сьвядомую беларускую эміграцыю. Закончыў сп. Лужынкі словамі Пятруся Нядзьвецкага (аўтара маршу БКА):

*Сьцяг бел-чырвона-белы вольны*
*У сэрцы кожнага ізь іх*
*Жаўнер Краёвай Абароны*
*На варце стаў правоў сваіх.*

Пра абставіны, цяжкасьці і прабег 2-га Усебеларускага Кангрэсу даклад-на і цікава расказаў сп. Алесь Алехнік. Нашыя тагачасныя вядучыя лідары пад гук кананады пастанавілі склікаць сабор, каб задэманстраваць сьвету волю бел. народу да незалежнасьці. 2-гі Кангрэс пацьвердзіў усе пастановы Першага, парваў усе сувязі з Масквой і іншымі акупантамі ды ў гэтым ягоная вялікая гістарычная вартасьць.

Прамаўляў і адзіны на залі ўдзельнік Кангрэсу сп. Сымон Шаўцоў, пацьвердзіўшы, што чырвоная навала ўжо была зусім блізка ад Менску, але настрой удзельнікаў быў узьнёслы і патрыятычны. Сп. Шаўцоў таксама падкрэсьліў, што калі ў 20-ы гады пад уплывам савецкай прапаганды некалькі дзеячоў БНР вярнуліся ў Савецкую Беларусь, то ніводзін з удзельнікаў 2-га Кангрэсу дабраахвотна ў Саветы не вярнуўся.

Сп-ня Вэраніка Варэца прадэклямавала патрыятычны верш Ул. Караткевіча. Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну закончылася ўрачыстая частка. Айцец Ігар благаславіў стол і пачаўся абед. За багаты і смачны абед належыцца падзяка сп-ням Мані Супрунчык, Ані Ціхан і Міраславе Бакуновіч.

У часе абеду прамаўлялі а. Сяргей і Валянтын Варэца, надоечы прыбылы зь Менску мастак, які разам са сваёй жонкай Лейляй аднаўляюць гістарычныя постаці бел. дзяржаўных мужоў, выбітных дзеячоў культуры й асьветы ад Еўфрасіні Полацкай да Кастуся Каліноўскага. На залі было вывешана 12 партрэтаў у цудоўным літаграфічным выкананьні. Паказальна, што сп-ва Варэцы — не беларусы, яны паходзяць з брацкага ўкраінскага народу і таму ўсё патрыятычнае грамадзтва Беларусі і дыяспары выказвае ім глыбокую пашану і прызнаньне. Сто раз дзякуй!

**Міхась Лужынскі**

*З жыцьця ў Чыкага*

## КУЛЬТУРНАЯ ВЫСТАЎКА



*Фрагмэнт з выстаўкі: Зьлева-направа: Вера Рамук, Др. В. Рамук, Людвіка Беленіс, Ірэна Пануцэвіч і Пэт Міхальскі*

Увайшло ўжо ў традыцыю Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага ладзіць штогод міні-выстаўку у штатным будынку, а гэта дзякуючы ветлівасьці і спагадлівасьці спіні Пэт Міхальскі, асыстэнткі губэрнатара Джыма Эдгар па этнічных справах.

Сп-ня Вера Рамук, адказная за выстаўку, разам са сп-нямі Ірэнай Пануцэвіч і Людвікай Беленіс нарыхтавалі стэнд 15 ліпеня пад клічам: «Славутая спадчына Беларусі».

У сувязі з надыходам алімпійскіх гульняў у Атлянта, Джорджыя, быў павешаны на панэлі плякат із некалі славутай беларускай спартсмэнкай Вольгай Корбут, а таксама памешчана выразка з газ. "Chicago Tribune" пра Віталія Шчэрбу, славутага чэмпіёна ў гімнастыцы, што заваяваў 6 залатых мэдалёў на Алімпіядзе ў Барсэлёне ў 1992 г.

Далей былі ілюстрацыі і здымкі з мастацкай дзейнасьці беларускіх артыстаў на Бацькаўшчыне. Чаргаваліся здымкі Жыровіцкага манастыра і царквы. Здымак з Папам у часе прыняцьця беларускай дэлегацыі ў нацыянальнай вопратцы, здымкі Царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага ды было нагадана пра 400-годзьдзе Вуніі ў Берасьці.

У габлётцы быў зьмешчаны вялікі ручнік вышыты беларускімі ўзорамі, вялікая лялька ў нацыянальнай вопратцы, малая лялька з саломкі, абразвышыўка беларускай жаночнай пары, паясы ў нацыянальных арнамэнтах, выява Пагоні, картка зь бел-чырвона-белым сьцягам, выдадзеная Аб'еднанымі Нацыямі (UN), камплект бел. паштовых марак, геаграфічная карта Беларусі, і г.т.

Выстаўка патрывала два тыдні. Сьціплая, але густоўна нарыхтаваная выстаўка была, паводле выказваньняў Пэт Міхальскі, аб'ектам зацікаўленасьці наведнікаў.

Падзяка сп-ням Веры Рамук, Ірэне Пануцэвіч і Людвіцы Беленіс за карпатлівае стараньне ў наладжаньні выстаўкі.

**Др. Вітаўт Рамук**

## БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў МЭЛЬБУРНЕ

***(Водгук былое супрацоўніцы. Ліст у рэдакцыю)***

У газэце «Беларус» за люты № 432 быў выдрукаваны артыкул «Радыё і эміграцыі», дзе пісалася пра беларускія радыёперадачы ў Мэльбурне. Я працавала ў радыё й была адказнай за беларускія перадачы. Супрацоўнікамі радыё гэтаксама былі сп-ні Надзя Груша, Оля Папярэчка, сьв. пам. сп-ры Алесь Салавей і Аляксандар Калодка.

Хацела б выправіць недакладнасьць у згаданым артыкуле. Рэч у тым, што да Этнік Радыё мы ніякага дачыненьня ня мелі. Новая радыёстанцыя была пад апекай Australian Broadcasting Commission і мела свой назоў Multilingual Access Radio 3ZZ Melbourne, у якую ўваходзілі розныя нацыянальныя групы і па радыё 3ZZ ішлі ў эфір беларускія перадачы.

Я была цесна зьвязаная з радыё, апрача таго мела іншыя грамадзкія абавязкі й ніколі не адыходзіла ад Беларускіх радыёперадачаў, але такой асобы як Яцэвіч у Беларускай Сэкцыі Радыё ня было.

У жніўні 1977 г. аўстралійскі ўрад ліквідаваў радыёстанцыю 3ZZ у Мэльбурне. Пра адну з прычынаў ліквідацыі напісаў сьв. пам. А. Калодка (былы супрацоўнік радыё) у газэце «Беларус» №240, красавік 1977 г. у артыкуле «Першыя ўгодкі Беларускіх Радыёперадачаў у Мэльбурне».

Гэтыя факты трэба ўзяць пад увагу, каб гісторыя беларускіх радыёперадачаў была праўдзівая й поўная.

**Ліля Яцкевіч**

**Ад рэдакцыі:**

*Пав. сп-ня Л. Яцкевіч! Дзякуем за вашу ўвагу да артыкулу й удакладненьне. Дасьледваньне гісторыя бел. радыёперадачаў у вольным сьвеце толькі нядаўна распачалося, таму няма дзіва, што ёсьць тут памылкі ці недакладнасьці. Відавочна, замест няіснуючай супрацоўніцы «Яцэвіч» меліся наўвазе менавіта Вы, сп-ня Л. Яцкевіч. Нумар «Беларуса» з вашым дописам і дасланую копію артыкулу А. Калодкі рэдакцыя перадасьць тым асобам у Менску, якія цікавяцца гісторыяй радыё на эміграцыі.*

 



# ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ 1995

*(Заканчэньне; пачатак у № 427)*



*Надзя і Янка Запруднікі ў жыце паміж Навагрудкам і Міром, дзе ўсе фатаграфаваліся з караваем, якім абдарылі падарожнікаў гасьцінныя Гарадзенцы.*

Ад Слуцка да Навагрудка ў нашым падарожжы — праз Тураў, Столін, Пінск, Горадню, Ліду, а пасьля Навагрудка праз Карэлічы, Мір і Нясьвіж — агульным назоўнікам усіх наведзінаў была гістарычная спадчына, захаваная-адлюстраваная ў гісторыка-краязнаўчых музэях. У кожным горадзе накіроўвалі нас у першую чаргу ў такі музэй, дзе мы дакраналіся да глыбіннае мінуўшчыны, бачылі ейную цэнтральную ролю ў працяглым існаваньні народу і дзяржавы.

Тое-ж і ў Навагрудку. Адразу па прыезьдзе — азнаямленьне з музэем. У гэтай першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, дзе слаўная векавая даўніна дрэмле на кожным кроху, гісторыка-краязнаўчы музэй быў адкрыты адно ў верасьні 1992 году, як даведваемся ад гіда сп. Мікалая Гайбы (ён-жа — малошы навуковы супрацоўнік музэю). У такой запозьненай з прычыны русыфікацыйнай палітыкі адваёве навагрудцам свае спадчыны аказаўся і адзін плюс: здаровая прапорцыя дасавецкага і савецкага пэрыядаў. Падобнага балянсу пазбаўлены ў моц пост-савецкай інэрцыі (падмацаванае цяпер рэакцыйным лукашэнкаўскім рэжымам) шмат якія іншыя музэі рэспублікі.

Сёй-той з нас зазірнуў у касьцёл, дзе ў 1385 годзе вялікі князь Ягайла браў шлюб, пракладаючы сабе дарогу да польскай кароны і даўшы некаторым палякам прычыну глядзець на Навагрудак (як і на радзівілаўскі Нясьвіж) як на сваю гістарычную спадчыну. Хоць каталікоў у Навагрудзкім раёне ня шмат — недзе каля трох тысячаў на 64 тысячы ўсіх жыхароў — каталіцкая, а разам з тым і польскамоўная прысутнасьць у самым Навагрудку зусім выразная: і ў касьцёле, і навокала яго, і на кургане ў гонар Адама Міцкевіча, і ў міцкевічаўскім музэі.

У праваслаўную царкву мы не заходзілі, была зачыненая. Але беларускага духу там, бадай, ня больш як і ў касьцёле. Затое праваслаўная антыпольскасьць выпляснулася аж на вуліцу. Пажылая жанчына, зь якой прыпадкам нам з Надзяй давялося пагутарыць, гаворачы пра сваю родную ўладу, катэгарычна заявіла: «Палякаў мы мя пусьцім, няхай лепш свой дурань сядзіць».

Як і ў Горадні, у Навагрудку адзначаем Купальле. Над возерам з гістарычным назовам — Літоўка. Вогнішча гарыць ня толькі ў нас, сьвецяцца іншыя. Ля нашага — чарка, песьні, скокі праз агонь. Морын — амэрыканка, якая ўжо ня першы раз наведвае Беларусь, — пад уражаньнем рамантычна-таямнічай ночы дзеліцца сваім захапленьнем ад бачанага. Я прабую ў перакладзе перадаць ейную ўсхваляванасьць. Выказваецца таксама падзяка арганізатару падарожжа Яўгену Лецку.

Начуем у гасьцініцы «Навагрудк», чысьцейшай за горадзенскую «Беларусь», але са сваеасаблівымі сходкамі. Што за ліха?! — ідзеш уверх ці ўніз, і як п'яны — ногі ня слухаюцца! Пачаў прыглядацца і — авохці мне! — бачу што кожная сходка мае сваю вышыню і сваю глыбіню. Во гэта дык дзіва, гэта дык будаўніцтва.

— Сьвет аб'ехаў, а такога ня бачыў! — кажу жанчыне з абслугі. — Хто гэта вам таке прыдумаў? — дапытваюся.

— А гэта нам, — кажа, — слонімскія будаўнікі такое пакінулі.

Ну, пэўна-ж, выконваючы сацыялістычнае спаборніцтва, якое цяпер таварыш Лукашэнка хоча зьберагчы для Беларусі.

Назаўтра наведваем музэй Адама Міцкевіча, талент якога ў моц гістарычных абставінаў пайшоў найбольш на службу не свайму краю. Музэй, выдатна афармлены дзякуючы шчодраму ўдзелу Польшчы. Варшава дбае пра захаваньне памяці аб сабе на колішніх «усходніх крэсах». У дадзеным выпадку скарысталі з гэтага і беларусы. У Навагрудку міцкевічаўскі музэй тымчасам — найлепшае месца ў горадзе для праводжаньня культурных імпрэсаў, якія вымагаюць добрай абстаноўкі, дэкору.

Па запоўненых экспанатамі пакоях колішняга сямейнага дому Міцкевічаў правяла нас навуковая супрацоўніца музэю сп-ня Софія Анісімава, плаўна карыстаючыся чыстай беларускай мовай ў інфарматыўным выкладзе пра жыцьцё і творчасьць выдатнага сына навагрудзкай зямлі. Гэтак-жа лёгка яна магла-б правесьці экскурсію і парасейску або папольску, што ёй і даводзіцца часта рабіць.

З Навагрудка аўтобус узяў курс на Мір. Тут таксама — гісторыя, руіны, запавольненыя нястачай сродкаў намаганьні аднавіць тое, што вынішчалася і выкрыўлялася дзесяцігодзьдзямі. Маладая сымпатычная Галя Манюкевіч з замілаваньнем і кампэтэнцыяй расказвае пра Мірскі замак, якому яшчэ далёкая дарога да добраўпарадкаванага турыстычнага аб'екту. Але сёе-тое робіцца. Хоць і далёка ня ўсімі. У мясцовай сувэнірнай крамцы каля самага замку сядзіць маладая харашуха-прадаўшчыца і чытае кніжку. Турысты, што заглянулі ў крамку, яе цікавяць найменш. Паненка занятая чытаньнем. Пакупнік няхай сам рады дае. А можа ён і ня будзе трывожыць яе сваімі зацікаўленьнямі і патрэбамі?..

Пра рэфэрэндум у кожным месцы ў прыватных гутарках чуеш адно й тое самае: бальшыня людзей галасавала «супраць», а выніку атрымаліся «за». Як трапна зазначыў Васіль Быкаў: ня важна, хто галасуе, важна, хто галасы падлічвае.

Нясьвіж сваёй культурнай спадчынай багацейшы і за Мір, і за Навагрудак. Тут было пра што пачуць нам і ад загадчыцы аддзелу культуры Леаніды Вохравай, і ад дырэктара самага маладога ў рэспубліцы музэю (усяго 8 месяцаў як адкрытага) Міхася Мацеля, і ад настаяцеля а. Генрыка Акалатовіча, які нам расказаў пра касьцёл ды даў дазвол прайсьціся па касьцельным скляпеньні з захаванымі ў ім грабніцамі князёў. Колькі тут навокала нямой мінуўшчыны? І калі яна загаворыць да сучасьнікаў на поўны голас?

Кс. Акалатовіч пажаліўся, што ў яго няма камп'ютэра, пры дапамозе якога ён мог-бы рыхтаваць дзецям беларускамоўную літаратуру, бо пакуль што даводзіцца даваць польскамоўную. Нараканьне-просьба была ўспрынятая з разуменьнем. Пасьля павароту ў Амэрыку грошы на камп'ютэр былі сабраныя і высланыя. Цікава было б даведацца, як выконваецца добры намер кс. Акалатовіча адносна беларускамоўнае літаратуры для ягоных падапечных.

Перад ад'ездам у Менск у гутарках пра сувязь зь беларускім замежжам давялося пачуць ад дырэктара раённай бібліятэкі сп-ні Людмілы Дашко нараканьне, што ў бібліятэцы амаль нічога няма зь беларускіх замежных выданьняў. А бязумоўна, магло-б быць. Трэба адно запакаваць і занесьці на пошту здаць. Вось адрас: 222620 г. Нясьвіж, вул. Савецкая, 34. Раённая бібліятэка.

Пад вечар 7-га ліпеня (1995 г.) вярнуліся ў Менск, аб'ехаўшы за чатыры дні цікавую і маляўнічую частку цэнтральна-паўдзённае і заходняе Беларусі. Пабачылі шмат чаго новага, адчулі складанасьць беларускай сытуацыі, пераканаліся ў багацьці нацыянальнай спадчыны, шматграннасьці традыцыяў. Сустрэліся з добрымі, талентавітымі і руплівымі людзьмі, занятымі справай адбудовы Бацькаўшчыны ў новых умовах свабоды і нечаканых цяжкасьцяў. Адчулі таксама радасьць людзей, якія ў сваім няпростым штадзённым быце, у ізаляванасьці ад вонкавага сьвету, шчасьлівыя сустрэчам з замежнымі суродзічамі, радыя пачуць, як беларусы на розных кантынэнтах уладзілі свае жыцьцё, захавалі беларускасьць і цягу да сваіх каранёў. І знаходзяць у гэтым пацьверджаньне сваім спадзяваньням, што, калі дамогуцца свабоды, за свабодай прыйдзе і дабрабыт.

* * *

Вярнуўшыся ў Менск, нашая грамада, узбагачаная калейдаскопам вобразаў і ўражаньняў, разьехалася на пэўны час хто куды. Мы з Надзяй паехалі да сваякоў у Жыткавічы, дзе было поўна абдымкаў і радасьці ад сустрэчы. У мяне адразу-ж завязалася дружба зь 7-гадовым Алесем Мельнікавым. Назаўтрае, па дарозе ў адведзіны да Надзінай сястры Марусі, радасны вясёлы Алесь папытаўся, ці мы не хацелі-б паслухаць новую прыпеўку, якую ён толькі што навучыўся. Ану давай, Алесь. І хлопчык звонкім галаскам прапяяў: «Самалёт ляціць, калёсы сьцёрліся, а мы ня ждалі вас, а вы прыпёрліся». Сьмеху была поўная машына. Рагаталі з намі і Алесь, рады, што нам спадабалася ягоная прыпеўка.

**Янка Запруднік**

*Лета 1996 г.*
*Сомэрсэт, Н.-Дж., ЗША*

## БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ Ў ВІЦЕБСКУ

Шматгадовая барацьба са спробамі перавесьці Гімназію нумар 1 гораду Віцебску зь беларускай мовы навучаньня на расейскую ўрэшце рэшт скончылася на карысьць мясцовых нацыянальна-сьведамых грамадзянаў: гімназіі нададзены статут беларускамоўнае навучальнае ўстановы.

Гэтую падзею сапраўды можна лічыць бадай што першай буйнай перамогай беларусаў Віцебску над антынацыянальным апаратам Міністэрства адукацыі. Аднак відавочна, што да канчатковай перамогі яшчэ далёка. Адна з надзённых праблемаў — у беларускіх падручніках. Здаецца, іх хапае на паліцах школьных бібліятэк, але-ж назваць падручнікі дасканалымі нельга: афіцыйная, 'газэтная' беларуская мова, нераспрацаванасьць тэрміналёгіі, якая пераважна ўяўляе сабой кальку з расейскай. На добры лад, пакуль ня позна, трэба было-б стварыць альтэрнатыўныя ўрадавым групам, камісыі з мэтай напісаньня школьных падручнікаў, якія-б адпавядалі беларускаму правапісу, і шукаць сродкаў для друку — на Беларусі ці па-за яе межамі.

Віцебскую беларускамоўную гімназію можна назваць першай ластаўкай. А вядома-ж, дзе першая ластаўка — там ужо і вясна. Будзьма спадзявацца, што чым бліжэй справа да вясны, тым больш будзе беларускамоўных школаў, і, як працяг і вынік, і беларускіх асяродкаў.

**Кастусь Віцяблянін**

 

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

Нават калі пагадзіцца з тэзай пра дзьве літаратуры, беларускую падсавецкую і беларускую на эміграцыі, паўстае пытаньне: да якой з гэтых літаратураў належыць творчасьць Лявона Случчаніна ці Тодара Лебяды? Або творы Ларысы Геніюш, чые ўгодкі зь дня нараджэньня мы адзначаем у жніўні. Дзесяткі вершаў яе, напісаных у 70-я гады, дасылаліся на Захад, беларусам у Англіі і Нямеччыне, Канады і ЗША, і довады вачавідкі: можна было пісаць, пры любой уладзе, і нават ня толькі ў шуфлянду. Сёньня тыя вершы ашчадна перахоўваюцца ці ў адной сям'і беларусаў. У БІНІМ чакаюць свайго часу лісты Ларысы і Юркі Геніюшаў, віншавальныя карткі і вершы. У ліставаньні — побытавыя замалёўкі жыцьця-змаганьня Паэткі над Саветамі, радасьць сяброўства, часам закамуфляваная, а калі-некалі і шчырая гіронія над «паштарамі ў цывільным». Частка вершаў пісалася з нагоды сьвятаў (Каляды, Новы Год), некаторыя зь іх раней друкаваліся на старонках «Бацькаўшчыны» і «Беларуса». Захоўваецца і машынапісны зборнік пераважна невядомых вершаў Л. Геніюш, укладзены Уладзімерам Цьвіркам, — аснова будучага выданьня. Сабраныя і выдадзеныя, невядомыя творы Ларысы Геніюш маглі-б паўстаць лепшым помнікам Паэтцы і справа гэтая аб'яднала-б, а не разьядноўвала-б людзей.

А пакуль што выдрукоўваем адзін зь вершаў, напісаны 22 кастрычніка 1970 г. і прысьвечаны В.Т. (Вітаўт Тумаш):

*Вітаю Вас, Сябра, праз тысячы вёрст.*
*Як заўсёды ад шчырага сэрца.*
*— Часам пазнаеш, адчуеш кагосьць*
*І ўжо не забудзеш да сьмерці...*
*Першыя вершы мае — жураўлі,*
*дзякуючь Вам за апеку.*
*дзякуй за тое, што другам былі,*
*што заўсёды былі чалавекам!*
*Калі мой жыцьцёвы завузіўся круг,*
*трагічнай ліхой няўдачы,*
*я верыла — сьледу шукаціме друг,*
*застогне, калі не заплача,*
*Загублены ў далях марозных, гусьляр*
*пад тленьне нямых спадзяваньняў,*
*я бачыла месяца роднага твар*
*ў паўночным разбрызганым зьзяньні.*
*Лягчэйшая ноша адчайных гадзін,*
*няміласьць суровага лёсу,*
*калі не забыты, калі не адзін,*
*калі ёсьць на сьвеце сяброўства!*
*Нічога, мой Дружа, што не маладосьць,*
*што не зара, а сутоньне,*
*што рук маіх сёньня, прамерзлых наскрозь,*
*не пакласьці на Вашы далоні.*
*Гадоў каляровых ня вернеш назад,*
*ўжо восень жыцьцём нашым правіць,*
*красуе няхай залаты лістапад,*
*як некалі сонечны травень.*
*І хоць ужо 60 на нашым вяку,*
*жывём для Радзімы аднойчы,*
*таму, гэта толькі пачатак шляху,*
*калі шлях гэты дзейны і творчы!*

## ВЕСТКІ ЗЬ ВІЦЕБШЧЫНЫ

У XVII-х летніх Алімпійскіх гульнях у Атлянце бралі удзел 158 беларускіх спартоўцаў, якія выступалі у 22 відах спорту. Сярод іх 8 жыхароў Віцебска: лёгкаатлеты Зьміцер Маркаў, Ганна Казак, Нэлі Варанкова, Віктар Гінька, баксёры Сяргей Быкоўскі, Сяргей Ляховіч, плаўчыха Натальля Бараноўская, ровэрыстка Зінаіда Стагурская, цяжкаатлеты з Наваполацку Віктар Бяляцкі й Ул. Емяльнаў ды палачанін Канстанцін Бялевіч.

Наваполацкія літаратары займелі свой часапіс – «Край». Рэдагуе новае выданьне ведамы наваполацкі паэта й радыёжурналісты Навум Гальпяровіч. Часапіс мае добрую паліграфію й цікавы зьмест. «Край» нельга назваць правінцыйнай культуралягічнай ініцыятывай, бо сярод аўтараў Лявон Баршчэўскі, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулин, мясцовыя літаратары.

Зь вялікім посьпехам у Віцебску ў межах праграмы фэсту «Славянскі базар» прайшла выстава знакамітага мастака-сюррэаліста Міхаса Сафронава. Сярод уладальнікаў ягоных твораў Сафія Лёрэн ды Міхаіл Гарбачоў. Наведвальнікі выставы мелі магчымасьць паразмаўляць з мастаком і атрымаць аўтографы.

У Віцебску завяршыліся чародныя Шагалаўскія дні: чытаньні, выставы, плэнэр. Пад час гэтых дзён ля музэю Марка Шагала была ўсталяваная мэмарыяльная дошка ў гонар сына Віцебскае зямлі. 5 ліпеня адбылася прэзэнтацыя кнігі «Шагалаўскі зборнік», якую вёў ляўрэат Шагалаўскай прэміі, старшыня Шагалаўскага камітэту Давід Сімановіч.

Штогод 14 ліпеня адзначаецца сьвята горада. Сёлета ў часе сьвяткаваньня былі адчыненыя мэмарыяльныя дошкі знакамітым віцебскім этнографам ды краязнаўцам Красьнянскаму й Нікіфароўскаму. У гэты-ж дзень быў адчынены помнік вядомай паэтцы Еўдакіі Лось. Факт усталяваньня помніка выклікаў шмат нездавальненьня з боку камуністых.

«Я не знаю такой паэтессы!» — з гонарам за сваё невуцтва крычаў вэтэран, які здаўна жыве ў Беларусі, — тут место Сталина или Ленина». Камуністыя пад час адкрыцьця помніка спрабавалі правесьці альтэрнатыўны мітынг. Аднак, усё абыйшлося й сёньня ля абласное бібліятэкі стаіць помнік Еўдакіі Лось са словамі «Я з табою, нясьмяротны мой народзе».

**Кастусь Віцьблянін**

## «ЗВАЖАЙ — ДАЛЕЙШЫ ЛЁС

На працягу 22-х гадоў часапіс Беларускіх Вэтэранаў «Зважай» выдаваўся раз на тры месяцы. Летась, у сувязі з палітычнымі падзеямі ў Рэспубліцы Беларусь, выйшла пяць нумароў. Сёлета выйшла чатыры. Шматлікія чытачы часапісу спадзяюцца, што неўзабаве зьявіцца сёлета й пяты а можа й шосты нумар.

«Зважай» залез у даўгі, ці, — як у Беларусі кажуць, —апынуўся ў дэфіцыце. Далейшы выхад залежыць ад падтрымкі чытачоў.

Дзякую ўсім супрацоўнікам, ахвярадаўцам і асабліва беларускім вэтэранам, якія на працягу двух дзесяткаў гадоў супрацоўнічалі са «Зважай» і яго падтрымлівалі.

**К. Акула**

# АГЛЯД КНІГАЎ

## «Я горды тым, што не вялікі...»

Пасьля кнігаў Масея Сяднёва, Янкі Юхнаўца, Кастуся Акулы на Беларусі выдадзены ладны том паэзіі Янкі Золака «Вятрыска з радзімай краіны. Збор выбраных твораў». Багата што радуе ў кнізе: і сам факт яе друку (сёньня 1996 год, па гараскопу ўсходняму год пацука, па палітычнаму — Лукі), і наклад у 1000 асобнікаў, і цудоўнае афармленьне выдавецтва «Беларускай асацыяцыі 'Дзелавая ініцыятыва'», і «тарашкевіца». Нялішне нагадаць, што два тамы сваіх твораў, фактычна, адзіныя зборнікі, Янка Золак выдаў сам ва ўласнай друкарні невялікім накладам. (Што дазволіла пазьней напісаць пра сябе з усьмешкай, як насьледваньне Багдановічу: Ў чужой краіне я лёгка дышу / Жыву спакойна, нібы ў зацішшу. / Я ганаруся: у сваёй сьпіжарні / Я кнігу маю з мае друкарні). Той двухтамовік даўно стаў бібліяграфічнай рэдкасьцю, таму новая кніга дасьць магчымасьць пазнаёміцца бліжэй с паэтам ня толькі на Бацькаўшчыне, але і на эміграцыі.

Уклаў і напісаў прадмову Л. Пранчак. (Напэўна, сярод чытачоў газэты ёсьць сааўтары ягонай кнігі «Беларуская Амэрыка», якім пашанцавала купіць яе за 50 даляраў). Прадмова таксама зроблена ў жанры інтэрв'ю і, бадай што, мае тыя самыя хібы, што былі заўважаныя ў кнізе: невалоданьне тэмаю, непадрыхтаванасьць. Як вынік, чытач, крыху знаёмы зь літаратурай эміграцыі, не адшукае для сябе нічога новага, а ў чытача на Беларусі пытаньняў больш узьнікне, чым вырашыцца. Між тым, ад чалавека, які колькі часу жыў у доме паэта, меў магчымасьць бачыць яго, гутарыць ледзь не кожны дзень, чакалася глыбейшага разуменьня творцы й творчасьці, пранікненьня ў майстэрню, а не друкарню. У прадмове-ж чытаем выпадковыя пытаньні: «Вайна скалечыла Ваша жыцьцё»?, «Зь літаратурнай працы Вы не змаглі-б пражыць?». Вялікае зьдзіўленьне ў аўтара прадмовы выклікала рэпліка Янкі Золака, што амэрыканцы ня ведаюць пра яго як пісьменьніка; спадара Леаніда цікавіла таксама, як паэта *прыйшоў* да беларушчыны й веры, быццам адпраўны пункт для ўсіх — расейскі атэізм.

І тым ня менш прадмову трэба прачытаць, прынамсі, адказы, якія больш зьмястоўныя, як пытаньні. Столькі сумнай, простай мудрасьці ў словах паэта, шчырага пагляду на сабе, адсутнасьці самалюбаваньня. На крыху дзіўнае пытаньне (з унутраным адказам) «Праз 50 гадоў пасьля вайны Вы больш крытычна ацэньваеце свой удзел у ёй?» Янка Золак адказвае: «Я й цяпер перакананы, што рабіць беларускую справу трэба было. Дзеля Беларусі. У імя Беларусі». Там ня менш Л. Пранчак разважае: «*Пазбавіўшы сябе Радзімы*, ён увёў яе ў культ рэлігіі, культ бажаства й увесь час маліўся і моліцца ёй цяпер, не зважаючы на зьмены й перамены, не зьвяртаючы ўвагу, што *ён ужо ёй чужы, а яна ему таксама чужая*». (!)

Можна паспачуваць Пранчаку і як укладальніку кнігі: немалую працу зрабіў ён, расстаўляючы вершы па гадох і днях напісаньня ў храналягічнай пасьлядоўнасьці, не пакінуўшы з аўтарскага двухтамовіка аніякіх разьдзелаў. І атрымалася, што арыгінальныя творы спадара Янкі суседнічаюць зь перакладамі, (як канапка: Золак, Пушкін, Шаўчэнка, Золак), байка «Лыска» зьмешчана побач зь вершам «Хрыстос Уваскрос». Калі аўтарам эпіграмы былі вылучаныя ў асобны разьдзел у другім томе твораў, укладальнікам яны рассыпаныя скрозь па ўсёй кнізе без ўвагі на іх як на асобны жанр, да таго-ж пазбаўлены аўтарскіх камэнтароў, як, да прыкладу, у эпіграме на Лявона Случчаніна. (Вострая-ж эпіграма на Ул. Клішэвіча нагул ня пададзеная). І маем: на адной старонцы верш Золака «Служу свайму народу», на наступнай — пераклад з Лэсі Ўкраінкі «Надзея», а пасьля яго — эпіграма на Алеся Змагара «Да сэксу ён яшчэ ахвочы»!

Але тое ўсё другаснае і да самой творчасьці, да паэзіі Янкі Золака ня мае аніякага дачыненьня. Галоўнае, што кніга выдадзена. Вершы зь яе — для самых розных чытачоў: патрыятычныя і пра каханьне, лірычныя і жартоўныя, карацелькі-афарызмы і акравершы. Дзякуючы шчырасьці аўтара, чытач мае рэдкую магчымасьць бачыць шлях паэта, ня толькі фізычны, але й духовы, шлях Антона Даніловіча і шлях Янкі Золака. Гэтых двух аб'ядноўвае ўнутраная сьціпласьць, шляхецкая стрыманасьць, нават самадастатковасьць. Паэзія Золака някідкая, як і сам псэўдонім, у адрозьненьні ад некаторых паэтаў з комплексам уласнай вялікасьці, але прывабная. Зрэшты, паэт сказаў пра сябе лепш:

*Я — апошняя дзіда ў шыпшыне;*
*Яркай кветкаю мне і ня быць.*
*Кветку людзі сарвуць і пакінуць;*
*Ў дзідах — ветру-свавольніку выць.*
*Не сарве вецер дзіду ніколі,*
*Хіба зломіць шыпшынавы куст.*
*Вось таму буду дзідай шыпшыны!*
*Гэта воля мая і мой густ.*

**Л.Ю.**

## ГЕРБОЎНІК НАВАГРАДЗКАЙ ШЛЯХТЫ

У Менску выйшла с друку салідная ілюстраваная кніга — «Малы гербоўнік наваградзкай шляхты», апрацаваны Беларускім генэалягічным таварыствам. Таварыства было створанае ў верасьні 1994 году, каб спрыяць развіццю генэалягічнай навукі, каардынаваць дзейнасьць гісторыкаў і генэолягаў у вывучэньні й пашырэньні гістарычнай веды сярод насельніцтва.

У звароце да чытачоў сустаршыня таварыства Вячаслаў Насевіч піша, што ў намеры арганізацыі ўваходзіць выданьне шэрагу публікацыяў.

**Кастусь Віцьблянін**

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ АРКАДЗЬ ЛІХАЧ



Пакойны Аркадзь Ліхач адыйшоў на вечны супачынак 21 ліпеня 1996 году.

Аркадзь нарадзіўся 1-га красавіка 1902 году ў Жыровічах, недалёка ад ведамага манастыра, аб якім ён любіў гаварыць, бо добра ведаў працу і жыцьцё гэтага манастыра. Будучы маладым хлапцом, у час бальшавіцкай рэвалюцыі, давялося ему цяжка працаваць на чыгунцы ў Менску. Пасьля заканчэньня першай сусьветнай вайны вярнуўся ў Жыровічы дзе працаваў на сваёй гаспадарцы. У часе нямецка-бальшавіцкай вайны служыў ў ахове парадку. У 1944 годзе пакінуў Жыровічы з жонкай і з адаптаваным сынаммалым дзяцём. У дарозе на Захад прыпадкова разлучыліся. Аркадзь дабраўся да Нямеччыны, а жонка с сынам вярнулася ў Жыровічы, дзе ў хуткім часе памерла. У Нямеччыне быў адзін зь першых жыхароў беларускага лягеру ў Шляйсгайме каля Мюнхену. У 1950 годзе выехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі і пасяліўся ў штаце Канэктыкут, дзе працаваў у кампаніі Дыктафон да выхаду на пэнсыю. У 1952 годзе жаніўся з удавой Казімірай, якая мела двух малых хлопчыкаў, якія пазьней атрымалі вышэйшую асьвету, дзякуючы працавітасьці бацькоў.

Нябожчык быў шчырым патрыётам і прыкладным хрысьціянінам. Быў заўсёды прысутным на кожным сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью-Ёрку, за выняткам апошняга 1996 году, калі ўжо ня чуўся на сілах.

Засталіся ў смутку жонка Казіміра з сынамі Гэнрыкам і Станіславам і адаптаваны сын з сям'ёй у Жыровічах.

Вечная Яму памяць.

**Сябра В. Кажан**

## БЕЛАРУСКА-ТУРЭЦКІЯ СУВЯЗІ

На працягу ліпеня прэзыдэнт Лукашэнка, які рашуча выступае супраць пашырэньня Паўночна-атлянтычнага пакту (НАТО) на ўсход, наведаў дзьве дзяржавы-члены НАТО — Францыю і Турцыю. Два гады таму ўзьнік скандал паміж Беларусьсю і Турцыяй, калі Менск абвінаваціў двух турэцкіх дыпляматаў у шпіянажы, хоць туркі катэгарычна адкінулі абвінавачаньне.

Гаворачы пра Турцыю цяпер, міністар замежных справў Беларусі Уладзімір Сянько сказаў, што «зь нікім Беларусь ня мае лепшых дачыненьняў, як з Турцыяй». Але, калі мераць эканамічнай меркай, беларуска-турэцкія сувязі даволі слабыя. Летась гандаль Беларусі з Турцыяй дасягнуў усяго 46 міліёнаў даляраў, тымчасам як леташні узровень гандлю Турцыі з Украінай склаў мільярд даляраў, а з Расеяй — тры міліярды даляраў.

## «ВАШЫНГТОН ПОСТ» ПРА СУПРАЦІЎ ЛУКАШЭНКУ

Газэта «Вашынгтон Пост» апублікавала 30 ліпеня артыкул свайго кіеўскага карэспандэнта Джэймса Рупэрта пра рост у Беларусі палітычнага супраціву намаганьням прэзыдэнта Лукашэнкі ўстанавіць аднаасабовую дыктатуру і застацца на пасадзе прэзыдэнта яшчэ на два тэрміны. Газэта цытуе выказваньне апазыцыйнага дэпутата Вярхоўнага Савету Станіслава Багданкевіча, які сказаў пра заяву сямі розных палітычных партыяў, што выступілі супольным фронтам з крытыкай Лукашэнкі: «Гэта Лукашэнка аб'яднаў нас сваім злоўжаваньнем уладай і адкрытым парушэньнем законаў краіны».

## ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ДЫЯСПАРЫ

Навуковае Таварыства імя Шаўчэнкі разам з Фундацыяй Сяброў Энцыкляпедыі Украіны вырашылі ў 1997 г. выдаць »Энцыкляпедыю Ўкраінскай Дыяспары», якая б ахоплівала ўсе зьвесткі пра пачатак і разьвіцьцё царкоўнага, палітычнага, культурнага, грамадскага, эканамічнага жыцьця дыяспары і яе ўстаноў. Рэдактарам Энцыкляпедыі, якая разьглядаецца як працяг «Энцыкляпедыі Украіназнаўства», запрошаны праф. Васіль Маркусь. «Энцыкляпедыя Украінскай Дыяспары» мае быць у шасьці тамох: амэрыканскі, канадыйскі, паўднёва-амерыканскі, аўстралійскі, заходне-еўрапейскі, усходнееўрапейскі. Пазьней да праэкту быў дададзены сёмы том, што рэдагуецца ў Кіеве, — пра ўсходняю дыяспару.

Над усімі тамамі ўжо ідзе праца, а «аўстралійскі том (са зьвесткамі з жыцьця ўкраінцаў у Азіі і Афрыцы) выдрукаваны. Прэзэнтацыя адбылася сёлета ў Чыкага, Нью-Ёрку й Кіеве. Наступным мае быць амерыканскі том у двух кнігах.

**Л.Ч.**

## «ЖЫРЫНОЎЦЫ» І КАМУНІСТЫ ПАСВАРЫЛІСЯ

Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі (фактычна — філіял партыі Жырыноўскага) прыняла заяву, у якой выказвае поўную падтрымку палітычнаму курсу прэзыдэнта Лукашэнкі і ягонай ідэі правядзеньня чарговага рэфэрэндуму. Жырыноўцы паведамілі, што «гатовыя да супрацоўніцтва ў галіне выканаўчай улады» — што трэба ўспрымаць, як непрыхаваную просьбу выдзяліць ім колькі міністэрскіх партфеляў. Адначасна, менскія жырыноўцы абрынуліся з крытыкай на лідараў партыі камуністаў за тое, што яны разам з прадстаўнікамі дэмакратычных партыяў паставілі подпісы пад заявай з асуджэньнем прэзыдэнта.

## ЦІ БЫЛО БРАЦКІМ СУЖЫЦЦЁ НАРОДАЎ РАСЕЙСКАЙ ІМПЭРЫІ?

Тыя, хто дамагаецца сёньня аб'ядненьня расейцаў з беларусамі й украінцамі ў адзіную «Вялікую Расею» ўвесь час заяўляюць пра шматгадовае сумеснае жыцьцё народаў у адзінай дзяржаве і братнія сувязі. Прапаную на суд чытача мой погляд на характар гэтых сувязяў, які грунтуецца на малаведамых беларускаму грамадзтву фактах.

Агульна ведама, што пасьля першага падзелу Рэчыпаспалітай на ўсходніх землях Беларусі й Украіны была створаная т.зв. «черта еврейской оседлости», якая пасьля наступных падзелаў ахапіла яшчэ большы абсяг за кошт беларускіх, украінскіх і жамойцкіх земляў. Тыя, хто думае, што яна закранула толькі лёс жыдоў, глыбока памыляецца.

Як у Беларусі, гэтак і на Украіне й Жамойціі большасьць гандляроў і намесьнікаў складалі жыды. Яны ж трымалі пошту й транспарт (ізвоз). У Беларусі некаторыя зь іх займаліся й хлебаробствам. Агульна ведама, што пасяленьне жыдоў спрыяла разьвіцьцю гандлю і рамёстваў, ды толькі ў межах Расейскай імпэрыі большасьць жыдоў жыла ў галечы й жабрацтве. Рэч у тым, што Рася ўжывала да жыдоў шэраг дыскрымінацыйных законаў і афіцыяльных абмежаваньняў. У 1794 г. для жыдоў быў уведзены падвойны падатак. Падушны падатак зьбіраўся з цэлай жыдоўскай абшчыны — кагала, таму багатыя плацілі падаткі ў тым ліку за бяднейшых, што на практыцы азначала выплату падатку ў 6-7 разоў большага за звычайны.

З 1839 г. дзяржава пачала зьбіраць «каробачны збор», які раней зьбіраўся кагалам для грамадзкіх патрэбаў ды для выплаты падаткавых недабораў. За недаборы кіраўніцтва кагала сажалі ў турму ці здавалі ў рэкруты.

У 1844 г. былі уведзены адмысловы падатак на суботнія сьвечы, а таксама жыдоўскае адзеньне. Імпэратар Мікалай Першы «дазволіў» жыдам насіць ярмолкі — «па 5 рублёў за кожную, ня больш і ня менш».

За час цараваньня Мікалая Першага жыды вымушаныя былі плаціць вялізарныя хабары урадоўцам, каб пазбавіць сваіх дзяцей лёсу кантаністаў.

Пэрыядычна расейскі ўрад абвінавачваў жыдоў у махлярстве й спойваньні сялянаў ды спрабаваў высяліць жыдоў з вёсак у гарады, але ж ад гэтага цярпелі ня толькі жыды, якія, пазбаўленыя сродкаў да існаваньня галадавалі, але й астатнія жыхары пасёлішчаў, бо цалкам разбуралася мясцовая гаспадарка. Цярпела гэтаксама дзяржаўная скарбніца.

Таму пад ціскам вялікай колькасьці скаргаў ад памешчыкаў і губэрнатараў прыходзілася вяртаць жыдоў на сяло да наступнага высяленьня.

Такім чынам расейскі ўрад фактычна ператвараў жыдоўскае грамадзтва ў помпу, якой пампаваў у Маскву мясцовыя грошы ды паводзіўся бы сьвіньня з байкі расейскага пісьменьніка Крылова, якая падрывала карэньні дубу, на якім высьпявалі залатыя жалуды.

**Хаім бен Мойшэ Лэвіт**

### Фінансавая справаздача за ліпень 1996

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| М. Смаршчок | ам. дал. 250 |
| Б. Рагуля | 105 |
| Л. Трусэвіч | 100 |
| Я. Магаліф у памяць У. Бычкоўскага і І. Шчорса | 80 |
| М. Гаўрылюк | 60 |
| С. Грамыка | 60 |
| К. Ворт | 50 |
| У. Машанскі | 50 |
| М. Рэдзімскі | 50 |
| Я. Сажыч | 50 |
| С. Шабовіч | 40 |
| М.К. | 35 |
| М. Аляксандр | 30 |
| В. Букатка | 30 |
| У. Валаткевіч | 30 |
| А. Губэрт | 30 |
| А. Даніловіч | 30 |
| Н. Ігнатовіч | 30 |
| Е. Кажан | 30 |
| О. Канарчук | 30 |
| В. Каракулька | 30 |
| І. Калоша | 30 |
| А. Кузьміч | 30 |
| С. Мажэйка | 30 |
| Э. Маркоўскі | 30 |
| А. Махнюк | 30 |
| М. Олыйнык | 30 |
| А. Радэнковіч | 30 |
| М. Рагалевіч | 30 |
| Л. Саковіч | 30 |
| В. Сітнік | 30 |
| В. Цярпіцкі | 30 |
| С. Янкоўскі | 30 |
| Д. Ясько | 30 |
| Разам атрымана | 1570 |

### У ліпені ад прадстаўніка «Беларуса» у Англіі Мікалая Сенько атрымана :

| | |
|---|---|
| П. Асіповіч | анг. фунт. 30 |
| У. Кажаневіч | 30 |
| Ф. Верамейка | 25 |
| М. Залескі | 25 |
| А. Сідаровіч | 25 |
| П. Шыркоўскі | 20 |
| Разам атрымана | 155 фунты |
| або | 240 амэр. даляраў |

Прыслана непасрэдна у рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| В. і В. Рамукі (у гонар Аляксандары Чарнэцкай) | ам. дал. 100 |
| М. Латушкін | 30 |

### На дзейнасьць Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня зрабілі ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| А. Шукелойц | ам. дал. 500 |
| В. і З. Кіпель | 500 |
| Я. і Н. Запруднік | 500 |
| Б. Рагуля | 500 |
| У. Набагез | 500 |
| Ф. і В. Бартуль | 400 |
| А. Рамана | 400 |
| В. і Г. Русак | 400 |
| Л. Коллін | 200 |
| В. Заморская | 250 |

### На дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| К. Акула | ам. дал. 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |